Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 11 Субота, 24-га Красавіка 1926 г. м. Вільня Год I

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Выходзіць раз у тыдзень Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці.—Шырокі дэмократызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая згода.—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
" " 3 " 2 зл. 50 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokołowski" pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам — 20 гр.
" сярод тэксту — 25 гр.
" на апош. стар. — 10 гр.
За радок Нонпарэля.

## Няздольныя.

У адным з папярэдніх нумароў нашай газэты, мы зазначылі, што пекная ідэя Сялянскага Саюзу трапіла ў няўдалыя рукі. Абасновывалі мы гэта на фактах *тактыкі* яе правадыроў, якія хістаюцца між небам і зямлёю.

Цяпер мы хочам сказаць некалькі словаў ужо *аб праграме* Сялянскага Саюзу, якая была прынята на першай яго конфэрэнцыі.

Перад усім мы прывядзём зданьня аб Саюзе комуністычнай газэты „Бел. Справа", якая зьяўляецца органам „Сял.-Раб. Грамады". „Бел. Справа", у № 1 з захопленьнем хваліць праграму Саюзу, акрэсьляючы яе гэткім чынам: „Чаго ў ёй няма! Тут і незалежнасьць злучаных Беларускіх земель у „фэдэрацыі з суседзямі"—тое што Усходняя Беларусь мае на дзеле. (*Пад уладай Комінтэрну! Рэд.*). Тут і „зямля сялянству бяз выкупу", толькі-ж „без права спэкуляцыі", — дый і гэта зьдзейсьнена па Усходзе. (*Ну, але! Бо лепшыя землі комуністамі аддаюцца жыдоўскім калёністам! Рэд.*). Тут і „аб'яднаньне ўсіх беларускіх працоўных сіл",—дык як —быццам тое самае, што паставіла сваёй мэтай „Белар. Сялянска-Работніцкая Грамада".

Так, з прыкрасьцю мы мусім сканстатаваць, што пахвальба Сялянск. Саюзу з боку комуністычнай „Белар. Справы" ў тым, што „Саюз" мае „пекную праграму" і зусім гэткую, якую мае „Белар. Сял.-Раб. Грамада" — ёсьць забойчай пахвальбой.

І трэба аддаць справядлівасьць „Бел. Справе", яна мае рацыю: праграма Сял. Саюзу гэтак уложана, што галоўныя тэзы, якія адрожнівалі „Саюз" ад „Грамады", і якія спачатку падаваліся ў „Сял. Ніве", пэракрэсьляны зусім гэтай праграмай Саюзу.

Мы ня будзем уваходзіць у разгляд тых дэталяў, якімі гэтак захопліваецца „Белар. Справа", бо ўжо самы факт захапліваньня пралетарскага таварыша—красамоўна сам за сябе гаворыць. Застановімся толькі на самай галоўнай кардынальнай праграмовай тэзе, якая пакладзена ў аснову „Сял. Саюзу", як арганізацыі клясава-сялянскай. Гэтай галоўнай тэзай—ёсьць *супярэчнасьць інтарэсаў работнікаў і сялян*, з выцякаючай адсюль патрэбай арганізаваньня сялян у клясова-сялянскую арганізацыю, бо горад заўсёды стараецца эксплёатаваць вёску—*мець танны хлеб*, а вёска заўсёды хоча прадаць хлеб даражэй, каб лепей было купіць дарагія гарадзкія прадукты вырабу рабочых і г. д. Адсюль ясна, што абсолютна неабходнымі ёсьць поўная незалежнасьць і абасобленнасьць клясавай сялянскай арганізацыі, ад арганізацыі клясавай работніцкай. Іншая рэч, што ў пэўных мамэнтах *палітычных* можна ісьці разам і селяніну і работніку, дзеля таго, каб не разьбіваць адзінага дэмакратычнага фронту, але ў *мамэнце клясавым*—супольнай дарогі селянін і работнік ня маюць. І вось папутаўшы мамэнты *палітычнай* солідарнасьці (комуністы гэтыя мамэнты зусім сьвядома путаюць і на гэтым увесь час гуляюць!) з мамэнтам солідарнасьці *клясавай*, Сял. Саюз у сваей праграме ня толькі ня выдзяліў пытаньня работніцкага, як непатрэбнага і супярэчнага з інтарэсамі сялян, але ўзяў яго ў бальшавіцкім маштабе! (Вось прычына захопленьня „Бел. Справы"!).

Гэтак у § 42 праграмы гаворыцца: „Бел. Сялянскі Саюз імкнецца да таго, каб прамысловыя фабрыкі былі ў руках рабочых..." А мы ведаем, што ня толькі ўва ўсём сьвеце фабрыкі істнуюць, як прыватныя прадпрыемствы, але нават і бальшавікі пачалі зварочваць забраныя фабрыкі старым іх уласьнікам, а рэшту трымаюць, як прадпрыемства дзяржаўныя, роўным чынам часта-густа аддаючы іх таксама ў прыватныя рукі, гэтак зв. трэстам. У руках-жа рабочых у С.С.Р.Р. няма ані воднай фабрыкі, бо гэта практычна зусім немагчыма.

Далей у § 44 праграмы гаворыцца, „Бел. Сялянскі Саюз стаіць за ўтрыманьне ўсіх сацыяльных здабычаў работніцкае клясы, а іменна *8 гадзін рабочага дня*, абароны працы кабет і дзяцей і г. д.

А як-жа будзе справа з парабкамі, альбо з тымі вясковымі работнікамі, якога бедны захварэўшы селянін, ці ўдава патрабуюць наняць? Што, ён таксама павінен карыстацца соцыяльнай здабычай і працаваць у гарачы час казённыя 8 гадзін, і гэта тады, калі сам гаспадар будзе працаваць 18—20 гадзін, бо іначай памрэ з голаду? Мы зусім ня хочам сказаць, што мы проціў гэтых „здабычаў". Але мы лічым, што справай гэтай павінны заняцца самі работнікі, бо яна зьяўляецца спэцыфічнай клясава-работніцкай справай. Для гэтага работнікі маюць свае моцныя клясавыя арганізацыі. Ня трэба забывацца яшчэ і аб тым, што сярод работнікаў пераважаюць соцыялістычныя тэндэнцыі, а сяляне—не прызнаюць аснаўнога прынцыпу соцыялізма, бо яны *перакананыя ўласьнікі*.

Дык у той час, калі селянін яшчэ зусім не арганізаваны; калі ён мае шмат сваіх асобных клясавых інтарэсаў, якія часта супярэчны з інтарэсамі работнікаў,—уводзіць у праграму сялянскай арганізацыі яшчэ і праграму работніцкую—зусім не лёгічна.

Заканчываецца праграма „Сялянскага Саюзу" гэтак: (§ 45): „У барацьбе за свае паасобныя ідэалы, як сяляне, так і работнікі, павінны ісьці разам і старацца адны адных падтрымоўваць".

Пекныя словы, але зьмест бяз усякага сэнсу!

Бо акурат дарога клясава—сялянская і дарога клясава-работніцкая ідуць ня разам, а ў розныя стораны. Дык, здаецца, можна сказаць ужо з усёю цьвёрдасьцю, што тварцы „Сял. Саюзу", з боку ўжо ня толькі тактыкі і практычных чынаў, але і з боку ідэолёгічнай структуры Сял. Саюзу—не справіліся з сваёй задачай — тварэньня чыста клясавай, самастойнай белар. Сялянскай арганізацыі.

———

## ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД.

На ўсім вялізным фронце ад вялікага да Атлянтыцкага акіяна, на якім ішла барацьба азіяцкіх народаў з эўрапэйцамі, зрабілася рашучая зьмена. Насупроць спадзяваньняў бальшавікоў, што ім удасца раздзьмухаць гэту барацьбу ў адкрытае паўстаньне ўсей Азіі і Афрыкі проці Эўропы і гэткім чынам палажыць апошнюю на абедзьве лапаткі, зусім неспадзевана для іх на ўсім фронце зрабілася заціпша. На ўсім фронце бальшавікі мелі няўдачу, якая разам з няўдачамі на ўнутраным эканамічным фронце можа быць небясьпечнай для савецкай улады ў СССР.

Найбольш цяжкі ўдар бальшавікі атрымалі ў Кітаі. Кітай ужо ачышчаны ад чырвоных бандаў. Пэкіп чырвоныя пакінулі бяз бою. Рэшта разьбітай і здэмаралізаванай чырвонай арміі Фэнга адступіла ў Манголію.

Бязупынна трываўшая ў працягу паўтара году ўнутраная вайна, з неадлучнай ад яе анархіяй аканчальна разрушылі край. Гэта анархія таксама шкодна адбілася і на гандлёвых зносінах Кітая з вялікімі сусьветнымі дзяржавамі, якія гатовыя цяпер прыйсьці з шырокім фінансавым падтрыманьнем, каб толькі хутчэй устанавіць грамадзкі супакой і парадак у гэтым аграмадным катле—430 мільённай чалавечай масы, якая бурліць у працягу 15-ёх гадоў. На Усходзе пачынаецца новае мірнае жыцьцё і эканамічнае супрацоўніцтва народаў.

Апрача Кітая бальшавікі зьвярталі яшчэ асаблівую ўвагу на Індыю, другое самае чуткае месца Англіі ў Азіі. Пасьля таго, як Кітай падпаў пад уплыў бальшавікоў, яны хацелі перанесьці барацьбу з Англіяй у Індыю. З гэтай мэтай бальшавікі перш-на-перш пачалі сваю работу ў Туркестане і пагранічным з Індыяй Афганістане. У Афганістане адчыніліся савецкія фабрыкі аружжа, бальшавікі арганізавалі афганскую армію і паветраны флот і пачалі сільную агітацыю. Але ўсе стараньні бальшавікоў, каб выклікаць паўстаньне ў самай Індыі проці ангельцаў не далі ніякіх рэзультатаў. Апошняя разруха ў галоўным горадзе Індыі—Калькуце, якую бальшавікі выклікалі на рэлігійным грунце, толькі ўзмацавала пазыцыю ангельцаў, якія выступілі ў ролі пасрэднікаў паміж магамэтанамі і індусамі. Гэткім чынам Індыя аказалася недаступнай для бальшавікоў.

Ня меншую ўвагу бальшавікі зьвярталі і на бліжні Усход, дзе ў сувязі з Сірыйскім паўстаньнем і Моссульскім конфліктам увесь час вісела пагроза вайны. Бальшавікі ў апошні час стараліся ўмацаваць сваю дружбу з Турцыяй, каб выкарыстаць яе як аружжа проці Англіі. Узапраўды-ж туркі аказаліся ня гэткімі дурнямі, якімі іх лічылі бальшавікі. Яны два ўжо разы выкарысталі бальшавікоў дзеля сваіх мэтаў, пакінуўшы іх самых у дурнях. Першы раз у часе вайны з Грэцыяй і цяпер у сварцы з Англіяй з прычыны моссульскага пытаньня. Англія пайшла на некаторыя ўступкі перад Турцыяй і моссульскі конфлікт можна лічыць аканчальна зьліквідаваным. А бальшавікі ізноў засталіся каля разьбітага карыта, як усюды і заўсёды.

Але самай важнай падзеяй апошніх дзён на Захадзе зьяўляецца пачатак мірных перагавораў з рыфэнамі ў Мароко. Пасьля амаль што ня чатырох гадовай вайны на Мароканскім фронце зроблена перамірые. Францыя і Гішпанія запрапанавалі Абд-эль-Крыму згоду, якую апошні прыняў. Здарылася гэта галоўным чынам дзякуючы націску францускіх соцыялістаў, якія прымусілі ўрад скараціць расходы на ваенныя апэрацыі ў Сірыі і Мароко. Рыфэны зусім заслужылі незалежнасьці сваім геройствам. А Францыі, змучанай фізычна і маральна, абавязкова патрэбна згода. Дзеля гэтага зусім магчыма, што яна будзе больш уступчыва і згаворчыва, чымсь была ўво-

сені летась. Гэткім чынам хутка ў Марокко можа быць поўны супасой.

І на ўсім вялізным фронце ад Ціхага да Атлянтыцкага акіяна застаецца яшчэ для ліквідацыі толькі Сірыйскі вокруг, дзе адбываюцца незначныя спатычкі францускага войска з друзамі, ня так ужо войстрыя, як раней. На вялізарным у 15.000 кілямэтраў фронце заміраюць ваенныя падзеі, разсеваюцца бурныя хмары і пачынаецца згоднае жыцьцё. На ўсім гэтым вялізным фронце бальшавікі мелі поўную няўдачу, якая павялічваецца яшчэ дзеля таго, што у С.С.Р.Р. поўная эканамічная анархія і поўны развал Комінтэрна, аб чым мы падрабязна напішам у іншы раз. А цяпер глянем, як бальшавікі стараюцца выкарыстаць новыя абставіны ў Заход. Эўропе.

Дазнаўшы поўнай няўдачы на Усходзе, бальшавікі ізноў пачалі цікавіцца Зах. Эўропай. Гэта апошняя магчымасьць, пакуль Нямеччына не ўвайшла яшчэ ў Лігу Народаў, шляхам інтрыгаў разьбіць лёкарнскае паразуменьне і Лігу Народаў. Дзеля гэтага савецкі ўрад перш за ўсё адмовіўся ад вучасьця ў конфэрэнцыі ў справе абязброеньня дзеля той пустой прычыны, што гэта конфэрэнцыя зьбіраецца ў Швэйцарыі, да якой Саветы варожа адносяцца пасьля забойства Вароўскага. А нязгоднасьць бальшавікоў з агульным трактатам аб абязброеньні ставіць у вынятковае палажэньне суседнія дзяржавы, ў першую чаргу Польшчу і Румынію, якія ня могуць абязброіцца. Польшча з Румыніяй ужо абнавілі ранейшы ваенны хаўрус. Нядаўняя візыта ў Польшчы заўсёднага дэлегата Францыі ў Лізе Народаў, Поля Бонкура, яшчэ мацней піхнула бальшавіцкую дыпляматыю на шлях інтрыгаў. Каб пасварыць заходнія дзяржавы паміж сабой і не дапусьціць да ўвахода Нямеччыны ў Лігу, што значна падняло-бы аўторытэт апошняй, бальшавікі запрапанавалі немцам падпісаць асобы дагавор кштаятам Лёкарнскага.

Немцы згадзіліся. Цяпер ідуць датычна гэтага перагаворы. Падобны дагавор бальшавікі думалі падпісаць і з Літвой, якая таксама згодзілася на гэта.

Вестка аб новым дагаворы бальшавікоў з немцамі, асабліва пасьля Лёкарно і выстаўленьня Нямеччынай сваей кандыдатуры ў Лігу Народаў, надта ўстрывожыла Лёндан і Парыж. Але немцы з свайго боку запэўнілі лёнданскае міністэрства заграгічных справаў, што новы дагавор з бальшавікамі нічым не пярэчыць ні духу лёкарнскага трактата і Лізе Народаў. Гэтым немцы быццам хочуць супакоіць бальшавікоў, што ў Лёкарно яны не прынялі на сябе ніякіх абавязкаў, скіраваных проці СССР. А што датычыцца закідаў у іхні бок, дык немцы лічаць зусім магчымым падпісываць гарантыйныя дагаворы з якой хочаш дзяржавай, калі яе суседзі робяць гэткія самыя дагаворы, як Італія з Юга-Славіяй, Польшча з Румыніяй і г. д.

Зьмест новага нямецка-савецкага дагавора гэткі, што абедзьве дзяржавы, абязваюцца захоўваць нейтралітэт, калі-б аднэй з іх прыйшлося ваяваць. Гэты дагавор не прынясе бальшавікам ніякае карысьці, як не прынёс у свой час і Рапальскі дагавор. А немцы могуць скарыстаць яго ў сваіх мэтах. Яны цяпер хочуць выкарыстаць гэты дагавор, пагражаючы збліжэньнем з бальшавікамі, дзеля таго, каб вытаргаваць сабе больш канцэсіяў з боку Англіі і Францыі пры ўваходзе ў Лігу Народаў. Калі, кажуць немцы, хочаце, каб мы ўвайшлі ў Лігу Народаў і рэалізавалі лёкарнскі дагавор, дык здавольце ўсе нашы дамаганьні, г. зн. заўсёднае месца у Радзе Лігі Народаў, не даючы гэткага Польшчы, аслабанеце занятые абшары, вярнеце калёніі і г. д. Дагэтуль немцы ўдачна карысталіся гэткай двухбаковай палітыкай. Зусім магчыма, што й цяпер ім удасца гэты манёўр, дзеля таго, што Англія і Францыя надта зацікаўлены ў тым, каб давясьці да канца лёкарнскае паразуменьне.

Але бальшавікам ад гэтага ня будзе лягчэй. N.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## У ПОЛЬШЧЫ.

— З коаліцыйнага кабінэту Скшынскага выступілі міністры ад П.П.С. Барліцкі і Земенцкі. Прычына—немагчымасьць дайсьці да паразуменьня ў фінансавых справах. У сувязі з гэтым —21 г. м. кабінэт падаўся ў адстаўку. Аднак п. Прэзыдэнт адстаўкі ня прыняў. Гэткім чынам пакуль што крызіс уладжаны, кабінэт застаецца згодна з жаданьнем Прэзыдэнта, да часу залатвеньня найважнейшых гаспадарственных справаў.

— Маршалак Я. Пілсудскі быў прыняты п. Прэзыдэнтам і меў з ім доўгую нараду. Зьмест нарады—невядомы.

— Як мы ўжо паведамлялі ў папярэднім нумары, ў Варшаве гэтымі днямі быў забіты б. міністар і прэзэс П.К.О. —Г. Ліндэ. Забойца—сэржант польскага войска Чмелеўскі—тлумачыць свой паступак тым, што ён застрэліў Ліндэ пад уражаньнем таго, што чуў на Судзе. Ен, быццам, баяўся, што Ліндэ апраўдаюць і вось, уважаючы яго за шкодніка і пастанавіў застраліць. (Відаць „лаўры“ Мурашкі не даюць спакою!). З прычыны сьмерці Ліндэ, Суд кары яму ня вызначыў, аднак прызнаў, што ён вінаваты ў перавышэньні улады і засудзіў з яго на карысьць Скарбу 1.400 тысячаў злотых стратаў. Баў і Грыневіч, якія абвінавачваліся разам з Ліндэ, засуджаны на 2 гады турмы.

— У Львове акончыўся працэс проці інтэндантаў польскіх войскаў маёра Гэйслера і інш. за надужыцьці. Гэйслер прыгавораны на 1 г. турмы і выдаленьне з войска, іншыя атрымалі ад 4 да 6 мес. турмы.

## ЗАГРАНІЦАЙ.

**ФРАНЦЫЯ.** Грамадзкая апінія Францыі вельмі ўстрывожана Нямецка-Савецкім дагаворам. Лічаць, што дагавор гэты пагражае таму парадку, які ўстаноўлены дагаворам у Лёкарно.

**АМЭРЫКА.** У сувязі з весткамі аб падпісаньні дагавору паміж немцамі і СССР., амэрыканскі ўрад пастанавіў да восені г.г. устрымацца са зваротам немцам канфіскаванай у часе вайны маемасьці.

**НЯМЕЧЧЫНА.** Па весткам некаторых газэтаў, у Нямеччыне шыкуецца пераварот. Справа адшкадаваньняў б. пануючых фаміліяў яшчэ ня вырашана. У зьвязку з заявай Амэрыкі, што пакуль што яна ня будзе звярачваць канфіскаваную ў часе вайны маемасьць немцаў—на біржы пачаўся значны спадак працэнтных папераў.

**ЛІТВА.** Улетку гэтага году адбудуцца тутка выбары ў новы Сойм. Дзеля таго, што выбарны закон зьменены з мэтай абыйсьці нацыянальныя меншасьці,—гэтыя меншасьці ўтварылі блёк, ў які ўвайшлі: *палякі, жыды і немцы.* Апрача гэтага вядуцца перагаворы аб уступленьні ў гэтую „16-ку“ і расейцаў.

**РУМЫНІЯ.** Ваенны міністар гэн. Мірцэску апрацаваў падрабязны плян рэарганізацыі румынскай арміі. Патрэбу гэтай рэарганізацыі ён тлумачыць тым, што сучасная граніца Румыніі патрабуе вялікай арміі.

**ТУРЦЫЯ.** У сувязі з новым дагаворам паміж Грэцыяй і Італіяй і ваяўнічым настроям гэтых дзяржаваў, Турцыя аказалася пад пагрозай вайны. На ўсялякі выпадак, Турцыя мабілізавала моладзь ад 19 да 25 г. Турэцкая армія канцэнтруецца ў Смірне і Кілікіі і маніцца даць энэргічны адпор на ўсякі напад.

**КІТАЙ.** Па весткам ангельскай прэсы—прэзыдэнт Кітаю ўцёк з Пэкіну ў Тзян-Дзінь. Маршал Чанг-Тсо-Лін і яго хаўрусьнікі патрабуюць ад Саветаў адазваньня Савецкага пасла Карахана за яго бальшавіцкую агітацыю, пры гэтым пагражаюць арыштаваць яго. Савецкі ўрад зьвярнуўся да Японіі з просьбай *змусіць* маршала Чанг-Тсо-Ліна не прымаць вострых мераў проці Карахана, падкрэсьліваючы, што граніца СССР. сумежна з Манджурыяй. Іначай кажучы — СССР. дае да зразуменьна, што ў выпадку чаго — гатова і на аружнае выступленьне...

**МАРОКО.** Пачаўшыяся мірныя перагаворы пакульшто спынены да 22 г. м. Прычына — варункі французаў, якія рыфэны лічаць лішне цяжкімі і адмаўляюцца іх прыняць.

# МОЙ АДКАЗ.

*(ПІСЬМО ў РЭДАКЦЫЮ).*

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Не адмоўце зьмясьціць гэтых слоў колькі:

У комуністычнай газэціне „Беларуская Справа“, (№ 2) якая пачала выходзіць замест зачыненай за сыстэматычную комуністычную працу „Бел. Нівы“, зьмешчаны „пратэст“ групы беларускіх студэнтаў у Празе Чэскай.

Гэтым сваім пісьмом я зусім ня думаю палемізаваць з тымі „таварышамі“—студэнтамі, ад „пратэсту“ якіх гэтак аддае спэцыфічным комуністычна-зьменавехаўскім духам бальшавіцкіх сутэнёраў, мянуючых сябе, як ведама *„товарищамй гражданамй СССР.“*, якія, як ведама знаходзяцца (гэтак-жа як і той, каго яны бароняць) на ўтрыманьні бальшавікоў, за што павінны выпаўняць рознага роду баявыя загады свайго начальства.

Зьмяшчаю-ж гэтае пісьмо, як стары студэнт, выключна з увагі на пашану перад ідэйным, чыстым беларускім студэнцтвам, бо я веру, што комуністычныя і комунізуючыя „працаўнікі“ сярод беларускага студэнцтва—гэта адзінкі, па прыказцы: „у сямье не бяз урода“. Гэта я аднашу аднолькова, як да белар. студэнцтва Заходняй Беларусі, гэтак—і Усходняй. Праўда, мне ведама, што настроі нашага студэнцтва можа трохі больш рэвалюцыйныя, чым наш кірунак, але гэта-ж так зразумела для гарачай, ідэйна—імпульсыўнай моладзі, якой жыцьцё, сваей неўмалімай рэальнасьцю, яшчэ не ўрэгулявала.

З другога боку я памятаю, як у той-жа самай Празе Чэскай ніхто іншы, як беларускае студэнцтва на сваём сходзе ад 25 кастрычніка 1925 г, закляйміла агіднае зьменавехаўства часткі праскай беларускай эміграцыі. З другога боку, каму ня ведама, што п. Луцкевіч стаіць на чале ня толькі зьменавехаўскай, але проста комуністычнай акцыі ў Зах. Беларусі? Нават партыя бел. эсэраў, якая надта моцна разходзіцца з намі ў палітычных поглядах, у сваім Бюлетэні N 2 пісала: „Іначай як бязпрынцыпнаю прымітыўнасьцю і нельга назваць гэтую частку беларускай інтэлігэнцыі, якая ствараe „Белар. Сялян.-Работн. Грамаду“, выдае ў Вільні зьменавехаўскія часопісі—„Жыцьцё Беларуса“, „Бел. Ніву“ ды інш.“

Пішу гэтае пісьмо яшчэ і дзеля таго, каб здэмаскаваць тую частку зьменавехаўскага студэнцтва, якая хоча прымаць актыўны ўдзел у палітычным жыцьці і можа зрабіць дэмаралізуючы ўплыў на рэшту студэнтаў. Раблю гэтае, паўтараю яшчэ раз, як стары студэнт. Бо я памятаю, што і ў нашыя часы былі сярод студэнцтва кар'ерысты—прадажныя элемэнты, г. зв. акадэмісты — чорнасоценнікі. Але здаровы ідэалізм большасьці дэмократычнага студэнцтва, захаваўшага старыя традыцыі, ня даў разьвіцца подламу акадэмізму і старое расейскае студэнцтва (бяз розьніцы нацыянальнасьці) гэтыя традыцыі панясло на страшэнную вайну, дзе пагібала, як афіцэрства, панясло на алтар барацьбы з бальшавікамі ў мамэнт бальшавіцкага перавароту ў Маскве і Петраградзе, вынясла сьветлыя традыцыі дэмократыі заграніцу на эміграцыю. Дык, толькі з увагі на пашану перад маладым бел. студэнцтвам гэтак падрабязна застанаўліваюся над гэтак важным і прыкрым зьявішчам, як студэнцкае зьменавехаўства, якое, як ведама, ў Празе зьвіла сабе моцнае гняздо.

Дагадацца, хто быў фактычным інспіратарам і загадчыкам „пратэсту“, —не цяжка, калі зьвярнуць увагу на тыя спэцыфічныя выразы ў „пратэсту“, якія мы гэтак часта-густа спатыкалі ў артыкулах *„бяз'іменнага“* аўтара ў нябошчыцы „Белар. Ніве“!

Тут ёсьць і „жорсткі тэррор польскай *буржуазіі*“... і „заслужоны дзеяч (*на поле міжнароднай агэнцкай службы?*) А. Луцкевіч“ і „беларускія *працоўныя* грамады“... і „агідная брахня *дэфэнзыўнай* прэсы ў беларускай мове“... і нарэшце гэткія рэчы, што нават „Белар. Справа „не магла зьмясьціць (*перастараліся відаць „таварышы-студэнты“!*) „з увагі на цэнзурныя варункі“. Пэўне-ж: „сьмерць белагвардзейцам!..“ „Няхай жыве Работніцка-Сялянская ўлада!“ „Няхай жыве комуністычная партыя і яе правадыры...“ і г. д. і г. д. Канчаецца пратэст романтычна: „будучы *пэўнымі* (!?) ў вачавіднай хлусьні дэфэнзыўнага органу, сабраныя выказываюць гр. Луцкевічу сваё спачуцьцё“... „Спачуцьцё!!.“ Бедны нябошчык! Аднак-жа, каб быць у чым-небудзь пэўным, а тым болей запярэчываць абвінавачаньням, трэба мець данныя. Вось я і сьцьверджаю, што гэтых данных „таварышы“—студэнты абсолютна ня маюць. Пастараюся гэта ім даказаць.

У чым мы (ня толькі я, ці газэта „Беларускае Слова“, а *ўсё* антыбальшавіцкае беларускае грамадзянства) абвінавачвалі і абвінавачваем п. Луцкевіча?

Мы абвінавачываем яго ў тым:

1) Што ён знаходзіцца на платнай службе ў маскоўскага Комінтэрну, што дае яму магчымасьць выдаваць *дорага* каштуючыя комуністычныя часопісі і сатырычныя журналы, якія разсылаюцца ў лічбе 3.000 экзэмпляраў *бязплатна* (за вынятком ня больш 5 прац. платных падпісчыкаў!);

2) Што п. Луцкевіч калечыць белар. вучнёўскую моладзь, уцягваньнем яе ў чынную комуністычную працу, што было *аднагалосна* сканстатавана агульным сходам *усяго* беларускага грамадзянства Вільні, які адбыўся 26 ліпня 1925 г. (гл. „Гр. Голас“ № 29). На гэтым сходзе віцэстаршынёю быў п. Туркевіч Язэп — муж даверра 16-кі падчас выбараў у Сойм, а пасьля — адказны рэдактар комунізуючай газэты „Жыцьцё Беларуса“, выдаванай самым п. Луцкевічам. Апрача таго, на сходзе быў прысутным беларус. студэнт Марцінчык. Абодва гэтыя паны, як ведама, *даволі* прыхільны да п. Луцкевіча і аднак-жа ні адзін з іх, ні на сходзе, ні потым, не пратэставалі проці забойчай рэзалюцыі аб калецтве белар. моладзі! Ды і пратэставаць было нельга, бо ўсё гэта, — была чыстая праўда! Ну, а „таварышам“—студэнтам з *Прагі Чэскай*, як бачым, ляпей відаць, што робіцца *ў нас тут* — на Бацькаўшчыне!

3) што ён, прэтэндуючы на „чын“, „змагара“, заўсёды „змагаецца“—паводле звычаю комуністычных верхаводаў: за плячыма сваіх нешчасьлівых ахвяраў—зіц-рэдактараў і інш. лёгкаверных, якія дзесяткамі за „змаганьне“ свайго „правадыра“ трапляла ў турмы, ці мусяць уцякаць да бальшавікоў!

4) што ў лік гэтых ахвяраў трапіла двох вучняў Віленскай Белар. Гімназіі, якія былі рэдактарамі комуністычных аднаднёвак, змушаны былі кінуць родныя хаты і бацькоў і ўцякаць да бальшавіцкага „раю“ на далейшую комуністычную працу і поўнае моральнае калецтва.

5) што ён не змагаецца ідэолёгічна, ўвёў у сваей прэсе брудную і неэтычную сыстэму: лжэ, па шулерску перадзёргвае і перакручвае факты і нарэшце ўжывае „базарную“ пэрсанальную лаянку, чым фактычна комpromітуе і дыскрэдытуе беларускае імя перад культурным сьветам;

6) і што ён быў платным нямецкім агэнтам, што даказана дакумэнтамі, у чым „нарэшце“, прызнаўся і сам Луцкевіч (гл. „Белар. Ніва“ № 16), стараючыся апраўдаць сябе толькі тым, што ён—„браць—браў, але мала“...

# № 11 НАШ САТЫРЫКОН № 11

**Гумарыстычна — сатырычны дадатак да „Беларускага Слова“.**

## АСЛЫ на ПАРНАСЕ.

(ПА КРЫЛОВУ).

*Пасьвячаю ўсім адзначыўшымся пяяньнем у розных „Нівах“.*

Калі вон з Грэцыі павыгналі багоў,
А іх маёнткі людзі дзяліць сталі,
Дык і Парнас на ўласнасьць некаму аддалі,
А той—сваіх пачаў там пасьць аслоў.
Няведаю адкуль, аднак аслы дазналі,
Што з пашы іх прад імі музы карысталі,
І кажуць так сабе: Ня дарма нас
Сюды на месца муз прыгналі!
Прайшоў іх час, і вось Парнас
Нам аддалі, каб мы пялі!
Дык бачце-жа—крычыць адзін: ніхто не адставай!
А той, хто галасісты—запявай!
Для славы нашай варта пастарацца,
Каб усе маглі пераканацца,
Што лепшы чым у муз-сясьцёр,
Тут будзе наш, асловы хор!
А каб ніхто ня зьбіў ў пяяньні нас,
Дык на Парнас,
Ня пусьцім мы з паўцоў нікога,
Голасу ня мае хто аслова!
З такой згадзілася ўсё стада прапазыкай.
І пачалася тут музыка!
Такі узьняўся гвалт і зыкі,
Такі гармідар правялікі, —
Як быццам недзе йшоў абоз
На тысячах немазаных калёс...
Няма чаго: было тут шмат стараньня...
Аднак ад гэтага асьлінага пяяньня
Чуць Грэцкі цар не звар'яцеў.
І вось, каб спыніць пявуноў,
Паслаў сваіх ён цівуноў,
Аслоў з Парнаса ўсіх загнаць
Хутчэй у хлеў,
І бізуна пры тым не шкадаваць...

---

Здаецца нам,
Што з „Ніваў“ кожнаму пісаку,
Ці не дадуць, як тым аслам —
Хутка пугай ў с...піну.

*Б. Д.*

## Сабакі і оўцы.

(*Па Крылову*).

Пры стадзе неякім авец,
Каб ратаваць іх ад ваўкоў,
Што стада крыўдзілі ў канец—
Прыставілі сабак за старажоў.
Аднак—сабакі хоць стараліс,
— Ваўкоў напады ня спыняліс.
Тады,
Сабраўшыся гаспадары,
Разгледзіўшы ўсю гэту справу,
Рашылі павялічыць псоў араву.
Што-ж? не памагло і гэта!
І вось яшчэ ў палове лета
Псоў набралося столькі наканец,
Колькі ў стадзе была тым авец.
Ваўкі чапаць ужо авец ня сьмелі.
Здавалася-б: ну, оўцы ўцалелі!
Аднак
Зусім ня вышла так...
Бо-ж старажам трэ есьць і піць,
Ня з пэнсыі-ж аднэй ім жыць?
І вось — сьпярша яны астрыглі з оўцаў шэрсьць,
Далей—па жэраб'ю—з іх скуркі паляцелі!
А там—засталася авечак штук пяць-шэсьць,
Дый тых ў канцы сабакі зьелі!..

---

Кепска, калі ёсьць зашмат апекуноў:
Дзе няняк сем—там дзеці без галоў...

*Б. Д.*

## З песьняў сумнага жыцьця.

(*Адрыўкі*).

Ня знаў мужык наш добрай долі.
Калісьці — пан яго смактаў;
Далей—ад дзён маскоўскай „волі“—
Пад бот урадаўцаў папаў.
Заўсёды быў ён паднявольны,
Апекуноў меў як дзіця,
Ці крэпастны ён быў, ці „вольны“
— Ня меў спакойнага жыцьця!
Заўсёды з працы яго й поту,
Карысьць меў нехта, а ня ён.
Заўсёды меў адну клапоту:
— Як не папасьць-бы „пад закон?“
Йшло жыцьце ўсё пад прынукай.
За ўсіх рабі, не *разсуждай!*“
Усёй яго было навукай:
„Павінен“, „мусіш“ ды — „давай“.
І бралі ўсе, без ўсякай меры,
А ён даваў... дый як не даць?
Да „пакі“ трапіш, да халеры,
Паспрабуй толькі адказаць!..

*Б. Д.*

незадаволеньне безработных і нацыянальных меншасьцяў. 1 траўня павінны выступіць спэцыяльныя баявыя комуністычныя арганізацыі, дзеля таго, каб справацыраваць паліцыю і выклікаць непарадкі. Але ўлады ўжо прыгатаваны да ўсяго; будуць прыняты меры, каб не дапусьціць да непарадкаў.

**Яа атрымаць бязплатны загранічны пашпарт на выезд у С. С. Р. Р.** Дзеля атрыманьня бязплатнага загранічнага пашпарту на выезд у ССРР., трэба далучыць да прашэньня гэткія дакумэнты: 1) пасьведчаньне савецкага консульства ў Варшаве аб тым, што просячаму будзе выдана віза на ўезд у ССРР., 2)дакумэнт, сьцверджаючы, што просячы мае ў ССРР. крэўных ці знаёмых, якія згаджаюцца ўтрымоўваць яго, ці даваць дапамогу. Тыя асобы, якія выяжджаюць у ССРР. на заробкі, павінны паказаць у прашэньні—колькі яны будуць там зарабляць, а таксама — далучыць да прашэньня пасьведчаньне аб тым, на які час яны запрошаны на работу. Усе гэтыя дакумэнты павінны быць сьцверджаны савецкім і польскім консульствамі.

**Аб аплаце загранічных пасылак.** Паштовыя ўлады выдалі распараджэньне аб тым, што загранічныя пасылкі не падлягаюць дадатковай паштовай аплаце на карысьць безработных.

**Ангельскія суботы.** На падставе цыркуляра Рады Міністраў, у часе ад 1 траўня да 30 верасьня, ўва ўсех дзяржаўных установах уводзяцца ангельскія суботы, гэта значыць, што ў суботы ўстановы гэтыя будуць працаваць толькі ад 8 да 2 гадзіны дня.

**Курс на грошы.** 21 красавіка за даляр плацілі 9 зл. 92 гр.– 9 зл. 88 гр.

**Газэту прачытай і перадай суседу!**

# ЮРЫДЫЧНЫЯ ПАРАДЫ.

**Падп. Я. Б—чу.** *Запытаньне:* У прошлым годзе я па запрадажнай купіў кавалак зямлі, заплаціў часьць грошы. Разам з прадаўцом падалі просьбу ад дазволе зрабіць гэтую куплю — прадажу. Цяпер аказваецца, што зямля належыць да іншай асобы, і той хто мне прадаў яе—мае толькі запрадажную з 1922 г. і кантракт на арэнду на 36 гадоў. Ен згаджаецца пераступіць мне свой кантракт, і абецае хутка зрабіць купчую, а тады і са мною справу скончыць. Грошы зьвярнуць ня хоча. Што рабіць і як?

*Адказ:* Калі кантракт зроблены натарыяльна і ўнесены ў гіпотэку (калі гіпотэка зроблена ўжо), і калі ў кантракце сказана, што кантракт можа быць перадаены іншай асобе без згоды ўласьніка — дык бярыце кантракт. А мо' прадавец сам мае якую ўласную маемасьць, тады з яго па запрадажнай вы зможаце ўзыскаць двайны задатак.

**Падп. Г. Г—ку.** *Запытаньне:* У 1915 г. дваюрадны мой брат выехаў у Расею, пакінуўшы тутака сваю зямлю. У вёсцы нашай нікога не засталася і зямлёй ніхто не ўладзеў. У 1918 г. я вярнуўся і дзеля таго, што вучасткі нашыя — сумежныя — пачаў карыстацца і з братняй зямлі. Дзеля таго, што брат і дагэтуль не вярнуўся з Расеі — зямля яго запісана ў гміне на маё імя, і плачу за яе падаткі, адбываю павіннасьці. У мінулым годзе з Расеі прыехала розная сястра брата, якая ўжо больш 30 гадоў, як вышла замуж і была выпасажана. Яна пачала дамагацца ад мяне звароту ўсёй братняй зямлі, а як я не аддаў, дык падала на мяне ў Суд. Ці можа яна адсудзіць і што рабіць?

*Адказ:* Калі яна дамагаецца перадачы ёй маемасьці адсутнага брата ў карыстаньне як апекуншы, дык зямля можа ёй быць аддана. Калі дамагаецца правоў уласнасьці, *дык можа атрымаць адну семую часьць толькі ў выпадку, калі ў вас няма мясцовага звычаю, па якому сястра вышаўшая замуж і выпасажаная, ня можа патрабаваць ад братоў часткі зямлі.* Бараніцеся тым, што брат яшчэ жыве; ссылайцеся на паменёны звычай, калі ён ёсьць; на тое, што зямлю прывялі ў парадак, бо-ж пэўне за час вайны стала дзірванам і г. д. Апроч таго, калі яна хоча адсудзіць зямлю на ўласьнасьць, — падайце ў Акружны Суд просьбу аб вызначэньні вас апякуном над зямлёй бязведама адсутнага брата. Да гэтага прашэньня павінна быць далучана пасьведчаньне гміны, што брата няма і што вы, як бліжэйшы крэўны ўладаеце зямлёй з 1918 г., абрабляеце яе, плаціце падаткі і адбываеце павіннасьці.

**Падп. К. В—чу.** *Запытаньне:* Я быў змабілізаваны ў 1915 г. Увесь час ваяваў і з арміяй Брангеля, выехаў у Баўгарыю, скуль вярнуўся толькі ў мінулым годзе Крэўныя мае заставаліся тутака. Бацька тымчасам памёр, у 1922 годзе. Застаўшыся тутака мой старшы брат узяў і прадаў зямлю бацькі разам з будынкамі і сам выехаў у другую губэрнію, дзе купіў сабе хутар. Зямля бацькі была надзельная. Прадана яна па запрадажнай зусім чужому чалавеку ў 1923 г. Брат цяперака адмаўляецца на'т выплаціць мне палову грошаў, атрыманых за бацькаўскае насьледства. Што рабіць і як?

*Адказ:* Падайце ў Суд на брата і таго, каму ён зямлю запрадаў аб зьніштожэньні запрадажнай у часьці, датычнай вашай часткі насьледзтва.

**Падп. М. Д—зу.** *Запытаньне:* Пасьля сьмерці бацькі, які памёр ужо даўно, засталося нас 4: маці 2 браты, ўжо жанатыя, і я, тады малалетняя. У 1922 г. вышла замуж. У тым жа годзе браты падзяліліся маемасьцю. Мне не далі ані часьці маемасьці, ані пасагу і адмаўляюцца даць. Што рабіць і на што я маю права?

*Адказ.* Маеце права на адну сёмую часьць нярухомасьці і адну чацьвёртую часьць рухомай маемасьці. Падайце да Міравога Судзьдзі. Вам прысудзяць гэтую часьць, але калі не прайшло яшчэ дзесяці гадоў ад часу вашага паўналецтва, г. зн. калі вам яшчэ няма поўных 31 году.

**Падп. Бен—чу Т. Валожын:** *Адказ:* Дзеці аднаго бацькі, але розных матак маюць аднальковыя правы на насьледства пасьля бацькі, як у насьледственнай яго маемасьці, так і ў купленай ім самім. — Браты, якія не жывуць на зямлі ўжо болей 10 гадоў, пры чым, як відаць з вашага лісту бацька памёр яшчэ раней выезду братоў — ніякіх правоў на зямлю і маемасьць не маюць, страцілі ўсе правы па даўнасьці. Дзеля гэтага і па даверанасьці ніхто ня можа дамагацца ад іх імя чаго-небудзь з насьледства.



Адказны Рэдактар Т. Вернікоўскі. Друк А. Дворжэца Завальная 32. Выдавец Ч. Бел. Гада